© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1238) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 18 ЛІСТАПАДА 1979 г. ЦАНА 1 зл.

## АДКРЫЦЦЁ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАГА ГОДА

Субота, 27 X 1979 года. У Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку ўжо ад раніцы прыўзняты настрой. Адкрыццё культурна-асветнага года стала тут традыцыйным святам, свайго роду перадНавагоднім вечар — падлік пладоў працы і планы на наступны год.

Прыбылі госці. Апрача актывістаў прынялі ўдзел прадстаўнікі ўлад: Гедройць Рэгіна — намеснік старшыні МРН у Беластоку, Гжаськевіч Антоні — сакратар Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу, дырэктар ваяводскага аддзела культуры Кыця Збігнеў, прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП Сеўка Аляксандр.



Узнагароды ўручае намеснік старшыні Гарадской рады нарадовай у Беластоку, Рэгіна Гедрайць.




Выступаюць „Каласкі“

На сцэне самадзейнікі з Рыбал.

У вялікай зале паднялася заслона. Янка Крупа адкрыў артыстычную частку. На сцэне акцёры аматарскага драматычнага гуртка з Рыбал. Ідзе п’еса Аркадзя Маўзона „Дарога праз ноч“ — эпізоды з апошняй вайны, дзейнасць беларускага падполля. Потым кароткі перапынак — і залу запаўняюць прыгожыя галасы „Каласкоў“.

Артыстычная частка закончылася. Пераходзім у залу бібліятэкі, за гасцінна застаўленыя сталы. Гаворыць старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Пасля цёплых слоў прывітання правёў падлік гадавых пладоў. Што зрабілі на працягу года? Пры БГКТ дзейнічаюць харавыя калектывы, драмгурткі, вакальныя калектывы, літаратурна-мастацкае аб’яднанне „Белавежа“, лектарская секцыя. На працягу года праведзены былі чатыры конкурсы: чытальніцкі, супольны з ваяводскай бібліятэкай; „Беларуская песня“ для дарослых і „Беларуская песня“ для вучняў; тэатральны. Харавыя калектывы, з якіх на асаблівую пахвалу заслугоўваюць: Гарадок, „Каласкі“, „Цаглінкі“ з Ляўкова, Райск і Дубяжын, далі звыш сямідзесяці канцэртаў. Члены лектарскай секцыі аж 74 разы выступалі з тэмамі „60-годдзе ўтварэння БССР“ і „Удзел беларусаў на Беласточчыне ў барацьбе за народную ўладу“. Праведзены таксама чатыры беларускія фэстыны і наладжана 71 фотавыстаўка ды чатыры выстаўкі экспанатаў беларускай народнай культуры, а нашыя „бела вежцы“ выступілі на 48 аўтарскіх сустрэчах.

Пры ГП БГКТ актыўна працуюць камісіі: асветніцкая, культуры і выдавецкая. Затрымаемся на апошняй. Штогод выходзіць „Беларускі каляндар“. Але не толькі. Выдаюць і літаратурныя кніжкі. Неўзабаве паявіцца чарговы альманах „белавежцаў“, зборнікі паэзіі Ірыны Баравік і Надзеі Артымовіч. У чарзе чакаюць наступныя.

— Наступны год будзе ў нас праходзіць пад лозунгам справаздачна-выбарнай кампаніі. Рыхтуемся да з’езду, — сказаў старшыня Мікалай Самоцік.

Улады ацанілі працу нашых актывістаў і ўзнагародзілі іх. Узнагароды ўручыла намеснік старшыні МРН Рэгіна Гедрайць. Залаты Крыж Заслугі атрымаў Віктар Бура, Сярэбраныя Крыжы Заслугі ўручаны Ніне Аверчук і Сцяпану Копе, Бронзавы Крыж Заслугі — Сяргею Лукашуку, Залаты значок „Заслужаны для Беласточчыны“ — Людміле Панько, Сярэбраны — Віктару Буры, Любе Гаўрылюк, Зіне Літвін, Сцяпану Копе і Сцяпану Рышчуку.

У працы БГКТ распачаўся новы год.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара



Удзельнікі ўрачыстага адкрыцця новага сезона працы БГКТ.

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Трапіць у гэтае вялікае, бо з 177 гаспадаркамі, сяло ў гміне Мельнік не цяжка: ляжыць яно ў нейкіх трыццаці кіламетрах на ўсход ад Сямяціч. І ехаць туды — адна прыемнасць. Ладнаю асфальтоўкай вы перасякаеце маляўнічыя ва ўсе поры года, яшчэ даволі значныя, рэшткі колішняй Мельніцкай пушчы, праязджаеце вёску Такары, некалі адну з самых доўгіх у гэтых ваколіцах, за ёю з’язджаеце з асфальту налева на дыхтоўную жвіроўку — і праз два-тры кіламетры вы ў Вілінаве.

### ВІЛІНАВА

Варта прыгледзецца гэтым, злёгку хвалістым, пасечаным хвайнякамі мясцінам, бо іменна яны і ёсць часткай таго багацейшага ў знаходкі „надбужанскага басейна“, з якога не выходзяць археалагічныя экспедыцыі, адкрываючы ўсё новыя і новыя аб’екты. Іменна тут, на абшары паўночнага Надбужжа асталіся сляды людской дзейнасці пачынаючы ад каменнай эпохі. Мяркуючы толькі па знаходках, якія адносяцца да сярэднявечча, непадалёк сённяшняга Вілінава віўся ў VIII-XIII стагоддзях рухлівы шлях з Усходняй Славяншчыны на Захад, тут ён праходзіў мясцамі, дзе потым паўсталі Высокае, Клюковічы, і вёў у Драгічын. Не карыстаўся ён, мабыць, добрай славай у тадышніх падарожнікаў. Гэта на ім, непадалёк вялікага гарадзішча каля Клюкавіч, дваццаць год таму назад быў знойдзены аграмадны скарб 935 сярэбраных манет. Як мяркуюць вучоныя, ён быў уласнасцю купца з Сярэдняй Азіі, магчыма з горада Шаш (сённяшні Ташкент), які прыбыў сюды недзе каля 910-920 гадоў за нявольнікамі або футрамі. Адолеўшы тысячы кіламетраў праз пустыні, стэпы, пушчы і багны ў тутэйшую спавітую легендамі пра вялікія багацці зямлю, замест узбагачэння знайшоў ён тут уласную смерць, бо каля скарбу было знойдзена вастрыё кап’я. Як паказалі аналізы, гэты кавалачак смертаноснага жалеза мог быць выплаўлены і выкаваны з тутэйшай балотнай руды. Можна доўга губіцца ў здагадках, чаму гэты скарб трапіў у гліняны гладыш і хто яго закапаў у тутэйшую пясчаную зямлю. Аброслыя далікатнай снеддзю арабскія дзірхемы маўчаць...

Першыя ўпамінанні пра Вілінава (Велінава, Вілянова, Вялянаў і іншыя формы назвы можна сустрэць у дакументах) знаходзім у запісах з 1528, 1534 і 1567 гадоў. Ужо тады гэта быў маёнтак і прыналежнае да яго сяло з прыгоннымі. Тут час не спяшаўся з пераменамі. Як успамінае цяпер 80-гадовы, радавіты вілінавец Філімон Цімашук, маёнтак пратрываў амаль да I сусветнай вайны. Быў аграмадны, багаты: толькі адной ворыўнай зямлі было ў ім звыш 2 тысяч дзесяцін, яшчэ больш лесу. Апошнія яго паны, нейкія Пратасевічы, распрадалі ўсё сялянам з навакольных вёсак і прыбыўшым з іншых мясцовасцей. Ад колішняга „двара“ асталася толькі нядобрая памяць ды назва палетка „Протыгулічы“ — поля, якое знаходзілася насупраць раскошнай палацовай алеі, дзе прагульваліся паны і паняты. Як у той час жылося ў патанаючым у асенняй топелі і летняй пясчузе Вілінаве, найлепш сведчыць факт, што сяляне тут перасталі хадзіць у лапцях толькі вярнуўшыся з бежанства.

У Вілінаве пасля рэформы 1861 г. было 25 участкаў па 15 дзесяцін кожны. Сядзелі на іх старыя сялянскія роды: Ахрымукі, Бандарукі, Брыкі, Вайцяхоўскія, Власюкі, Высоцкія, Данілюкі, Дзмітрукі, Жарначукі, Жаброўскія, Жэруні, Казакі, Лонцкія, Максімукі, Мікалаюкі, Пушкі, Стрэльчукі, Сульжыкі, Тадарукі, Тафілюкі, Тымашукі, Тышукі, Шышкі, Шэўчукі, Юдыцкія, Якімюкі. Уласнага хлеба ды бульбы хапала толькі да Каляд. А вілінаўцы заўсёды надта ж дбайна тупалі каля сваіх палеткаў: Вілочкі, Глінкі, Дзвеўрубкі, Дорожыска, Жыдовіна, Загородде, Загумэнне, Загур’е, Комарнікі, Ланы, Мацькі Кут, Пішчыны, Пудбор’е, Солмінне, Свэрдэ Угло; лугоў і пашы: Доўге, Дубаснэ, Кут, Прыдаткі Сэрэдні, Табун. І людзі дзень у дзень ішлі на парабкаванне ў „двор“; дзе толькі ўдалося бралі „на трэттю частіну“ розную няўдобіцу, г.зн. аран-

Працяг на стар. 4

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ДЗЕЛЯ БЛІЖЭЙШАГА ЗНАЁМСТВА

Папулярнае вроцлаўскае выдавецтва „Асалінэум“ узяло на сябе надзвычай амбітнае заданне — друк абшырнага цыкла сусветнай гісторыі. У рамках гэтага цыкла (як чарговая дванццаць першая бібліяграфічная адзінка) паявілася „Гісторыя Беларусі“, аўтарам якой з'яўляецца малады польскі гісторык Марцэлі Косман. Абшырная кніжка (400 старонак), выдадзеная дзесяцітысячным тыражом на прыгожай паперы ў добрым пераплёце, з дасканалай супервокладкай, з багатымі ілюстрацыямі і картамі, з абшырнай бібліяграфіяй, біяграфічным і геаграфічным даведнікамі.

Аўтар кніжкі, як сам сцвярджае ва ўступным слове, апынуўся ў цяжкім становішчы: не было ў Польшчы яго папярэднікаў, якія б на аснове грунтоўных студыяў апрацавалі ўсебакова гісторыю Беларусі. Дадатковым ускладненнем, паводле слоў аўтара, з'яўляецца тое, што Беларусь гэта непасрэдны наш сусед, які ў мінулым разам з Польшчай уваходзіў у састаў аднаго дзяржаўнага арганізма. Канцэнтруючы ўвагу на польска-беларускіх узаемасувязях у мінулым, трэба якраз памятаць аб гэтай спецыфіцы. Суадносіны паміж суседнімі народамі былі вельмі блізкімі, аднак, як сцвярджае аўтар, не заўсёды ідылічнымі.

Гісторыю Беларусі аўтар падзяліў на адзінаццаць перыядаў: першабытная абшчына, Заходняя Русь ад IX да XIII стагоддзя; заваяванне рускіх земляў літоўцамі; у дзяржаве ягелонаў; у Рэчыпаспалітай шляхецкай; у рускай дзяржаве; міжваенны перыяд (дзве дарогі развіцця: сацыялістычная ў СССР і капіталістычная ў Заходняй Беларусі); II сусветная вайна; пасляваенны аднаўленчы перыяд і далейшае развіццё.

Свой гістарычны аналіз аўтар праводзіць, пачынаючы ад першых людскіх слядоў на беларускіх землях, і заключае разважанні візітам у Беларусі польскай партыйна-дзяржаўнай дэлегацыі на чале з I сакратаром ПАРП тав. Эдвардам Геркам у лістападзе 1976 года.

Зразумела, што цяжэйшай справай з'яўляецца ацэнка навейшай гісторыі, чым далёкага мінулага, якое ўжо было аналізавана рознымі гісторыкамі. Таму нічога дзіўнага, што падзеі ў Беларусі ў мінулыя стагоддзі апрацаваны М. Косманам больш грунтоўна. Трэба аднак сцвердзіць, што выклікае наша зацікаўленне хаця б і фрагментарная ацэнка аўтарам кніжкі навейшых падзей. Маю тут на ўвазе лёс беларускага насельніцтва ў межах II Рэчыпаспалітай.

Паводле слоў аўтара, у Заходняй Беларусі пражывала да 1939 года звыш чатырох мільёнаў насельніцтва, з якога толькі 15% прыпадала на гарады (у БССР у той час — 24,7%). У прамысловасці была значная колькасць (25500 у 1936 г.) беспрацоўных, выступалі вялікія дыспрапорцыі ў зарплаце у параўнанні з цэнтральнымі раёнамі Польшчы, прадоўжаны да 10-12 гадзін рабочы дзень выклікаў сацыяльныя хваляванні.

Звыш 80% насельніцтва Заходняй Беларусі працавала ў сельскай гаспадарцы, прычым найлепшыя землі знаходзіліся ў руках памешчыкаў. Дробныя гаспадаркі (да 5 гектараў) складалі 46% агульнай колькасці гаспадарак, аднак займалі яны толькі 8,6% зямлі, калі памешчыцкія маёнткі (было іх менш чым 1%) займалі палову агульнай плошчы ворнай зямлі. 15% сялянскіх гаспадарак не мела кароў, ад 23 да 34% — коней. У многіх выпадках драўляная саха замяняла жалезны плуг.

Беларускае насельніцтва рэдка знаходзіла працу па-за вёскай.

З прычыны нездавальняючай колькасці школ да канца міжваеннага перыяду агульнай з'явай была непісьменнасць насельніцтва. У 1938 годзе на тэрыторыі Палескага ваяводства каля 49% жыхароў ва ўзросце звыш 10 гадоў было непісьменным, у Навагрудскім — 35%. Сярэднедзяржаўная ў той час склала 23%.

Школьніцтва ў сувязі са спадчынай з царскіх часоў трэба было адбудоўваць амаль ад асноў. У 1936/37 навучальным годзе ва ўсёй краіне было толькі 8 пачатковых школ з беларускай мовай навучання і 13 двухмоўных (з польскай і беларускай мовамі), у 45 школах беларуская мова выступала як прадмет. У гэтых школах навучалася каля 11500 вучняў. У наступным навучальным годзе беларускіх школ не было ўжо зусім.

Сярэдняе школьніцтва выглядала яшчэ горш. Калі пасля атрымання незалежнасці Польшчы 4% гімназістаў ў паўночна-ўсходніх ваяводствах вывуча-

(Працяг на стар. 4)

## КАЛЯНДАР

**285 гадоў назад**

21.11.1694 нар. Вальтэр (сапр. Франсуа Мары Аруэ), французскі пісьменнік, публіцыст і філосаф.

**80 гадоў назад**

20.11.1899 нар. М. Клімковіч, беларускі пісьменнік.

**35 гадоў назад**

18.11.1944 у Любліне адкрыўся I Кангрэс прафсаюзаў (да 20.11.).

21.11.1944 было заснавана Таварыства польска-савецкай дружбы (Люблін).

22.11.1944 пам. К. Чорны (сапр. Мікалай Раманоўскі), беларускі празаік, драматург, публіцыст.

* * * * * * * * * *

*20.11.1909 пецярбургская „Ніва“, каментуючы руска-італьянскія адносіны, пісала: Расія і Італія, так далёкія адзін ад другога і па тэрыторыі, і па мове, і па вераваннях, і па нацыянальнаму складу насельніцтва, — раптам сталі блізкімі. Што ж іх злучыла? Адзіна магутны прэс германізму, ціск якога адчувае на сабе ўся Еўропа. Фармальна Італія з'яўляецца саюзнікам Германіі, тады, як Расія ўдзельнічае ў варожай апошняй кааліцыі траістага дагавору; але сугіпольнасць палітычных інтарэсаў прымушае іх схіляцца да сябе насуперак заключаным саюзам.*


**Помнікі зямлі беларускай.** *Помнік „Маці-патрыётцы“ ў г. Жодзіна.*
*Фота Ул. Казлова.*

## ХРОНІКА

■ Нядаўна адбыўся сход гуртка ў Дубяжыне (гміна Бельск), які налічвае 36 членаў БГКТ. Удзельнікі сходу пастанавілі арганізаваць карнавальны вечар супольна з іншым харавым калектывам, узяць удзел у конкурсе „Беларуская песня—80“, дабіцца яшчэ вышэйшага ўзроўню свайго харавога калектыву. Было выбрана новае праўленне гуртка ў складзе: Мікалай Раманюк — старшыня, Іван Тамашук — сакратар, Тамара Шэратуха — скарбнік. На з'езд БГКТ паедзе Аляксандр Раманюк.

■ У Кошках (гміна Бельск) у праўленне гуртка БГКТ выбраны: Валянціна Леанюк — старшыня, Валянціна Мацкевіч — сакратар, Вера Копец — скарбнік. Прысутная на сходзе моладзь пастанавіла аднавіць памяшканне святліцы і арганізаваць там клуб прэсы і кніжкі, вясною ўзяць удзел у грамадскім пачыне пры рамонце дарогі, якая вядзе ў Пашкоўшчыну, заахвоціць аднаго з музыкантаў, каб прыняў ён удзел у музычным конкурсе БГКТ.

■ 21 кастрычніка адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Малінніках (гміна Орля). Прысутныя выказалі сваю думку аб неабходнасці ўзяць шэфства над мясцовай святліцай і арганізоўваць у ёй культурныя мерапрыемствы. Там старшынёю гуртка БГКТ выбраны Пётр Нічыпарук, сакратаром — Паўліна Васілюк, скарбнікам — Ірэна Сахарчук.

■ У Тапчыкалах (гміна Орля) са справаздачным дакладам выступіла Ніна Сікора. Дыскусія сканцэнтравана была ў асноўным над праблемамі харавой групы. У склад праўлення ўвайшлі: Ніна Сікора — старшыня, Ольга Пракапюк — сакратар і Людміла Іванюк — скарбнік.

■ 17 кастрычніка цікава прайшоў сход рады клуба гайнаўскага гуртка БГКТ. У прынятым плане працы прадугледжаны такія пункты: арганізаваць вакальна-інструментальны калектыў, стварыць секцыі: шахматна-шашачную і брыджа, а таксама прапагандна-лектарскую. Былі прыняты правілы працы клуба і падзелена праца сярод членаў рады. А ў раду клуба выбраны: Віктар Бура — старшыня, Ірэна Заброцкая — сакратар і члены: Марыя Сцепанюк, Аляксей Харкевіч, Тамара Харытанюк і Дзмітры Ціханюк.

■ 27 кастрычніка з нагоды святкавання 50 гадавіны спулдзельчага банку ў Гарадку мясцовы жаночы харавы калектыў БГКТ выступіў з канцэртам.

**(мх)**




**Як гаспадараць у Чыжах ● Чыстка сумлення ● Конкурсы БГКТ ● Пра Міхася Лынькова ● Пра Беласток ● Казка для дарослых ● Скарб Белавежскай пушчы ● Весткі з Бельска, Галадоў, Міхалова, Васількова, Саколкі, Гайнаўкі, Чаромхі, Масева, Завыкаў, Апакі, Орлі ● Буг у агні ● Калі сніцца калодзеж ● Гора Кастусёвага суседа ● Развучваем беларускую песню „Ручнікі“.**


## Niwa

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1942 Nakład 7.600 egz. S-2




## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 18 XI** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek m.in. ang. film ser. „Niezwykła piątka”. 10.20 Antena. 10.45 Samoloty i ludzie. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Piękne głosy. B. Klinasz-Mikołajczyk. 13.15 Piórkiem i węglem. 13.40 Dla dzieci: Znacie? To posłuchajcie. Wszystko przydarzyć się może. 14.15 Los. Dużego Lotka. 14.30 Koncert życzeń. 15.10 Utwory Wiliama Szekspira. 15.55 Finał Pucharu Świata w piłce ręcznej mężczyzn. 17.20 Tele-echo. 18.20 Jesienny dzień z J. Milianem. Wyk. H. Kunicka, A. Jantar, I. Santor, K. Krawczyk i inni. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Korzenie, odc. XI — film fab. TV USA. 21.10 Studio sport. 21.30 Przeboje mistrzów. Wyk. K. Kulka, W. Ochman, P. Paleczny, A. Hiolski inni. 22.10 Na estradach świata. Burt Bacharak zaprasza do parku.

**Poniedziałek 19 XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Nauczanie początkowe. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 10 minut — teletur. 17.30 Społem. 17.45 Baszan — rep. film. 18.00 Zakład — czechosł. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV. L. Bajer i A. Chrzanowski — Wielki człowiek wg powieści Al. Morgana. 22.10 Dziennik. 22.25 W trosce o zdrowie.

**Wtorek 20 XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.00 Klinika Zdrowego Człowieka. 17.30 Sonda. 17.35 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Między nami jaskiniowcami. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Sam i Sally — Weekend w Deauville — fr. film fab. 21.10 I liga hokeja na lodzie. 21.55 Camerata. 22.20 Dziennik. 22.35 Merkury z paszportem.

**Środa 21 XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Mat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci: Skakanka. 16.55 Mistrzostwa Europy w piłce nożnej NRD—Holandia. 18.45 Dom i my. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Stracone złudzenia — ang. film fab. 21.50 Dziennik. 22.05 Trybuna krytyków.

**Czwartek 22 XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek Telewizji Dziewcząt i Chłopców, w programie m.in. „Pippi Langstrumpf” — szwedz. film fab. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Z wizytą u pancerników — rep. wojs. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Aniołki Charliego odc. pt. Panienki do towarzystwa — film fab. USA. 21.10 Pegaz. 21.55 Dziennik. 22.10 W minutę po premierze.

**Piątek 23 XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Psych. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motor. 17.25 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Najmłodszy z rodu Hamrów — odc. XI (ostatni) czechosł. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Konwój — ameryk. film fab. (wojenny). 22.25 Dziennik. 22.40 Świat, ludzie, idee.

**Sobota 24 XI** — 8.55 Program dnia. 9.00 Magazyn lotniczy. 9.30 A. Kuśniewicz — Moje fascynacje kulturalne. 11.00 Człowiek, Ziemia, Kosmos. 11.30 Latarnia czarnoksięska. Dwudziestolatki w polskim filmie. 12.00 Film Latarni. Szklana Kula — polski film fab. 13.30 Orbita. 14.00 Radzimy rolnikom. 14.10 Studio 2. W programie m.in.: 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Samuraj i kowboje — film przygodowy prod. włosko-fancusko-hiszpańskiej.

(ur)

## Telewizja Mińsk

**Piątek 16 XI** — 7.50 Film fab. ser. 9.05 Koncert. 17.30 Film fab. ser. 19.35 P. nożna. Dynamo (Tbilisi) — Dynamo (Kijów). 21.20 Pr. estrad.

**Sobota 17 XI** — 7.35 Film fab. ser. 14.00 W świecie zwierząt. 15.45 Film anim. 16.20 Spektakl. 17.50 Spektakl. Cezar i Kleopatra. Cz. I. 19.35 cz. II. 20.40 Melodie wieczorne.

**Niedziela 18 XI** — 7.05 Koncert. 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 14.10 Klub podróży. 15.15 Cyrk. 18.20 Kilmy krótkometrażowe. 19.35 Na ulicy Nieżdanowej.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Słoneczny pył — radz. 20—21. Nadwołżańska opowieść — radz. 22—23. Człowiek bez paszportu — radz. 24—25.

**Bielsk Podl.** Ojciec Sergiusz — radz. 19—20. Lęk wysokości — USA 21—22. Tortury — fr. 23—24. Umarli rzucają cień — pol. 25.

**Czeremcha** Ballada huzarska — radz. 20—21. Woda życia — radz. 24—25.

**Czyże** Nagonka — jug. Gdybym miał dziewczynę — czes. 21—25.

**Gródek** Pusty kurs — radz. 24—25.

**Hajnówka** Upadek czarnego konsula — radz. 19—21. Zdolny do wszystkiego — radz. 22—23. Dramat na polowaniu — radz. 24—25.

**Michałowo** Ewakuacja — radz. 20—21. Gdy nadchodzi wrzesień — radz. 22—23. Ryzyko — radz. 24—25.

**Milejczyce** Ojciec Sergiusz — radz. Do krwi ostatniej — pol. 21—25.

**Narew** Melodie białych nocy — radz. Musisz żyć — NRD 21—25.

**Narewka** Wypij do dna — radz. Mimino — radz. 21—25.

**Nurzec** Przygody małpki Nuki — radz. 20—21. Wyznanie miłości — radz. 24—25.

**Orla** Dziwna kobieta — radz. Jak zranione ptaki — radz. 21—23.

**Rajsk** Cudze listy — radz. Lipcowe spotkanie — czes. 21—25.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XLVIII

У апавяданні „Калодка пчол“ адсутнічае які-кольвек класавы ці грамадскі элемент. У апавяданні паказана група сялян, якая, захоўваючы надзвычайную асцярожнасць, перавозіць куплены вулей. Сяляне перакананы, што ў вулеі, згодна са словамі прадаўца знаходзяцца і пчолы і мёд. Камізм дасягае тут кульмінацыі ў апошнім фрагменце твора. Сяляне, забяспечыўшы рукі і твары ад пчол, лезуць у вулей, які аказваецца цалкам пусты.

Такім чынам прадстаўлены ў апавяданні тып камізму засноўваецца на канфлікце паміж чалавечай наіўнасцю і чалавечай хітрасцю.

Апавяданне „Трывога“ прысвечана паказу чалавечай наіўнасці ў іншым, чым у двух папярэдніх апавяданнях, аспекце. У творы выведзены селянін, якога наведваюць кожную ноч страхі. Настрою містыфікацыі паддаецца, зрэшты, сялянская грамада, якая кідаецца наўцёк, убачыўшы селяніна ў бялізне, — прыняўшы яго за чорта. Героі гэтага апавядання з'яўляюцца адначасова стваральнікамі і ахвярамі сваіх наіўных уяўленняў. Якраз у гэтым і заключаецца характар камізму ў гэтым творы.

З праявам палітычнай наіўнасці маем дачыненне ў апавяданні „Андрэй выбаршчык“. Выступаюць тут сяляне, якія маюць вялікія надзеі на паляпшэнне жыцця ў сувязі з выбарамі ў царскую Думу. З вялікім пад'ёмам праводзяць яны свайго дэлегата, але той, вярнуўшыся з павятовага з'езду, вынік сваёй місіі называе рэччу, „якую мужыкі вывозяць на поле“.

І так у пяці прадстаўленых апавяданнях Колас паказвае розныя тыпы чалавечай наіўнасці — індывідуальнай, калектыўнай, выпадковай, заканамернай. Пісьменнік вельмі ўмела паказвае камплікацыі, якія з'яўляюцца вынікам чалавечай наіўнасці.

Наступны цыкл камічных апавяданняў Коласа звязаны з постацямі „п'яных герояў“.

П'янства селяніна выклікала зацікаўленне з боку амаль усіх беларускіх пісьменнікаў XIX ст. Праблема гэта выступае ў паэзіі Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча.

Па сутнасці з боку ўсіх названых пісьменнікаў п'янства селяніна выклікала маралізатарскія і дыдактычныя тэндэнцыі.

Чачот схільны быў бачыць у п'янстве прычыну сялянскай нядолі, Рыпінскі бачыў у ім пачаткі атэізму і распусты. Баршчэўскага палохала адчайнасць п'яных мужыкоў, гатовых падняць рукі супраць „святой“ памешчыцкай уласнасці. Нават Багушэвіч — пісьменнік, які значна адрозніваўся ад сваіх літаратурных папярэднікаў, заламваў рукі над п'янствам селяніна, бачачы ў ім крыніцу розных сямейных і грамадскіх няшчасцяў.

Колас у творах, прысвечаных п'янству, адышоў ад тэндэнцый, характэрных для творчасці пісьменнікаў XIX ст. Паказаў гэту з'яву не ў трагічным, а ў камічным аспекце.




У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Гартны Ц.,** Насустрач сонцу, 1978, стар. 368, цана 36 зл.

У зборнік увайшлі лепшыя апавяданні гэтага выдатнага беларускага рэвалюцыянера, дзяржаўнага дзеяча і пісьменніка.

**Ціханаў М.,** Спасціжэнне, 1978, стар. 176, цана 14 зл.

Томік з цыкла „Паэзія народаў СССР“ перакладаў на беларускую мову вершаў, баладаў, паэм вядомага рускага савецкага паэта.

Беларуская лінгвістыка. Выпуск 14, 1978, цана 20 зл.

У гэтым выпуску знаходзім артыкулы: Бірылы М. В. „Націск невытворных аднаскладовых назоўнікаў мужчынскага роду“, Вардамацкага Л. М. „Да вызначэння месца націску ў слове“, Выгоннай Л. Ц. „Фанетычныя асаблівасці шматскладовых слоў у беларускай літаратурнай мове“, І. Савіцкай „Асаблівасці дыстрыбуцыі фанем беларускай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі“, Альт Т. Ф. „Мова Літоўскага статута 1529 г.“ і інш.

**Сахута Я. М.,** Народная разьба па дрэву, 1978, стар. 96, цана 19 зл.

„Наўрад ці можна назваць больш даступны і універсальны матэрыял для беларускіх народных умельцаў, чым дрэва, — сцвярджае ва ўступе да сваёй цікавай і каштоўнай працы аўтар і інфармуе: „Гэтая кніга, паважаны чытач, пазнаёміць цябе з лепшымі ўзорамі беларускай народнай дэкаратыўнай разьбы па дрэву, як дарэвалюцыйнага, так і савецкага часу“. І трэба аб'ектыўна прызнаць — знаёміць даступна, грунтоўна, з паказам арыгінальных здымкаў многіх вырабаў.

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, 1977, цана 22 зл. 80 гр.

Багата ілюстраваны здымкамі інфарматар пра сталыя экспазіцыі і зборы гэтага музея.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki” 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

# ШТО ВЫДАДЗІМ

Створаная нядаўна адбыўшымся пленумам Галоўнага праўлення БГКТ **выдавецкая камісія** правяла 27 кастрычніка бягучага года першае сваё пасяджэнне. У ім удзельнічаў старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** старшыня выдавецкай камісіі **Г. Валкавыцкі,** яе члены: **А. Баршчэўскі, М. Гайдук, Я. Зенюк, В. Склубоўскі, Ю. Туронак і В. Швед.**

Камісія разгледзела шэраг найбольш важных выдавецкіх спраў, прыняла парадак сваёй дзейнасці на будучыню. Цяпер кожнае выданне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, незалежна ад яго аб'ёму і зместу, павінна быць складзена ў выдавецкую камісію. Яна разгледзіць яго вартасці, ацэніць прыдатнасць у дзейнасці БГКТ і выкажа свой погляд аб патрэбе друку. На гэтай падставе ГП БГКТ звернецца ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы за сродкамі і матэрыяламі на друк гэтага выдання. Камісія будзе таксама пазначаць рэдактараў кожнага выдання, яго тыраж і ўстанаўляць чаргу перадачы ў друк паасобных выданняў.

Рэдактар „Беларускага календара на 1980 г.“ Г. Валкавыцкі праінфармаваў, што ўжо заканчваюцца друкарскія працы над гэтым выданнем і яно, трэба спадзявацца, будзе ў продажы ў снежні бягучага года. М. Самоцік паведаміў, што ў бліжэйшыя месяцы будуць таксама надрукаваны альманах „Белавежа“ № 3 і зборнік вершаў І. Баравік „Супраць ветру“. Затым рэдактар „Беларускага календара на 1981 г.“ М. Гайдук прадставіў праект плана гэтага выдання. Камісія ўсебакова абмеркавала прапанаваны змест календара і пашырыла яго шэрагам тэмаў. Рэдактар і аўтары пачалі ўжо працу над гэтым, дваццаць пятым выданнем беларускага календара ў гісторыі БГКТ.

Камісія вырашыла выдаць зборнік апрацовак народных казак і легенд „Аб чым шуміць Белавежская пушча“ М. Гайдука і зборнік твораў А. Барскага. Камісія абмеркавала тыражы паасобных выданняў і выказала свае меркаванні аб найбольш спраўным іх распаўсюджанні сярод чытачоў. Пасяджэнне праходзіла працавіта і канструктыўна.

**(іс)**

ФАЛЬКЛОР

# ВЯСЕЛЬНАЯ



*Дадому, сваточкі, дадому!*
*Паелі конікі салому.*
*Паелі конікі да жменькі —*
*паедуць сваточкі без дзеўкі!*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

жыццёвага аптымізму, імкнення да дзеяння для агульнага дабра. Пры народнай уладзе сяло адрадзілася. Супольнымі сіламі ў грамадскім пачыне яно збудавала салідную брукаваную вуліцу, узвяло прыгожы вясковы Дом культуры вартасцю ў 725 тысяч злотых, дапамагло пабудаваць краму, жвіраваную дарогу з сяла да шашы і г.д. Усе гэтыя аб'екты ўзведзены коштам некалькіх мільёнаў злотых, сама меней палову гэтай сумы ўнеслі ўласнай працай, матэрыяламі і грашыма вілінаўцы. Шмат моладзі закончыла вышэйшыя школы, некалькі вучыцца цяпер.

А сёння ў Вілінаве? Тут людзі добра гаспадараць: многа кантрактуюць збожжа, маюць добра развітую гадоўлю. І не страцілі найбольш каштоўных традыцый са свайго багатага мінулага. У сяле круглы год амаль у кожнай хаце стаяць кросны і ўсякую вольную хвіліну вілінаўскія майстрыхі ткуць красачныя, узорыстыя дываны і кілімы. Жыве тут таксама багаты фальклор — за дзве-тры гадзіны майго побыту тут народныя спявачкі сваімі звонкімі галасамі наспявалі мне каля пятнаццаці арыгінальных беларускіх мелодый. Мілае гэтае сяло Вілінава...

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*А маладое пакаленне вілінаўцаў мае свае цікавыя справы.*

# ДА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

Дарагі Дзядзька Квас, аж у сэрцы закалола мне, калі я прачытаў ваш верш, які вы назвалі апошнім. Чаму апошні? Што здарылася? Я асабіста люблю прывітанні, а баюся развітанняў, тым больш з людзьмі, з якімі мяне нешта звязвае. Не люблю людзей і асабліва мужчын, якія ўмеюць гневацца. Мужчына павінен умець дыскутаваць і ўмець прызнавацца да прайгранай, калі нехта іншы дакажа сваю рацыю.

У вас, Дзядзька Квас, няма ворагаў сярод тых, хто піша ў „Ніву“, а ёсць толькі крыху тых, якія не згаджаюцца з вашымі выказваннямі наконт паэтычнай творчасці некаторых белавежцаў. Ну і што? Няхай выказваюцца супроць вашай ацэнкі, няхай вас пераконваюць, што дарма да іх чапляецеся. Гэта ж творчая дыскусія, якая вядзе адных і другіх да адной думкі, як лепш пісаць і як трапней крытыкаваць.

Паводле маёй думкі, ні вы, ні яны не павінны пісаць так, каб пароць жывое, але ніхто нікому не забароніць выказаць сваю думку ў адрас таго ці іншага твора ды паасобнага чалавека.

Ваш апошні верш у „Ніву“ ўліў жаль у сэрца не толькі мне. Думаю, што іншыя адчуваюць тое ж самае. І я веру ўсё ж, што чытачы „Нівы“ яшчэ не раз з уцехай прачытаюць вашы творы... О, бачыце, як адразу весялей стала на душы і вам, і нам!

Як жа можна пакідаць „Ніву“ і яе калектыў, калі ўсё больш і больш паміж рэдакцыяй і карэспандэнтамі ды чытачамі зацісканоцца сардэчныя адносіны. Застаюся тады з надзеяй, што яшчэ сустрэнемся на сёмай старонцы „Нівы“.

Гэй, далей жа на Парнас
Пхайся смела, Дзядзька Квас!
Не вагайся!

**Васіль Петручук,**
**Беласток**

П.С. Вось жа толькі што й прагучэла савецкая песня

Для чего мы рождаемся?
Для больших новых дел.
Для того живём, чтоб оставить
След на своей земле для людей.

* * *

Ці сапраўды вы з глузду з'ехалі? Як гэта зразумець: ваш апошні верш у „Ніву“? Тое, што Дзед Кастусь у сваёй рэпліцы вас заатакаваў, праз гэта вы здумалі развітацца з „Нівай“ і яе чытачамі? Гэта яшчэ вельмі маленькі факцік, каб так паступаць. Няма што браць да сэрца і так супраціўляцца. Найлепшае лякарства на ўсе гэта — час. Бяру з сябе гэты прыклад. Быў і я ў розных перапалках і пераканаўся, што найлепшае лякарства — спакой.

Вас, Дзядзька Квас, найбольш любяць чытачы „Нівы“, а вы хочаце ўсім ім падкачаць з-за дробязі? Так нельга! Ніхто з вамі не зраўняецца ў вашым таленце пісаць вершы і ўсё іншае. Далёка да вас многім. Факт, так пісаць, як пішуць некаторыя, то і першы-лепшы напіша. Вось мая праўда, шчырага вашага сябра.

**М. Панфілюк,**
Дубічы Царкоўныя

* * *

Паважаны Дзядзька Квас! Прачытаўшы „Апошні верш у „Ніву“, не ведаў, што і думаць. Ці сапраўды гэты верш „то верш расстання?“ Як жа будзе выглядаць наша „Ніва“ без вашых вершаў?

Пішыце далей у „Ніву“! Вашы вершы чытае большасць чытачоў. Любяць вашу творчасць людзі старэйшыя і менш адукаваныя, якім вершы нашых „белавежцаў“ зусім не ў зуб.

За крытыку „белавежцаў“ і смеласць у выказванні думак ад большасці чытачоў належыцца вам падзяка. Няма што пераймацца рэплікай Дзеда Кастуся. Добра і вы ім насалілі. З усіх тых спрэчак толькі добра будзе. Нашы паэты знізяць лёт і пачнуць такую творчасць, якая будзе зразумела чытачам. Разлічваю на тое, што яшчэ сустрэнемся на старонках „Нівы“.

**Э. Вайсковіч,**
Гайнаўка

* * *

Згодна з вывадам вялікага мысліцеля і філосафа Гегеля, прагрэс з'яўляецца вынікам розных поглядаў. Іх трэнні між сабой родзяць новае, леп-

(Працяг на стар. 7)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

(Працяг са стар. 5)

## ДА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

шае. Марксісцкая філасофія тлумачыць гэтым працэс развіцця.

Як усё жыццё, падлягае яму і наша грамадства. Бачым гэта хоць бы са старонак „Нівы". Нашы спрэчкі там, абмеркаванні нашых спраў, сведчаць аб жывучасці, неабыякавасці. І гэта справа добрая.

Між іншымі справамі вялася тут дыскусія аб сучаснай беларускай паэзіі. З крытыкай яе выступаў Дзядзька Квас. Лічу, што яна была патрэбнай. У ходзе той дыскусіі не ўсе згаджаліся з Дзядзькам Квасам. Гутарка ішла ў тым выпадку больш аб форме дыскусіі, чым аб змесце. І за гэта Дзядзька Квас абразіўся. Доўга маўчаў, а потым напісаў развітальны „Апошні верш у „Ніву". Прыпамінае гэта ўсё тых, што, паспрачаўшыся між сабой, адзін другому кажа: „Давай мае цацкі, іду на свой панадворак", і гульня канчаецца. Так выходзіць і тут. А шкада! Чаго ж абражацца? Ці ж Дзядзька Квас адчуваў бы сябе лепш, калі б яго меркаванні прынялі ўсе абыякава, моўчкі?

Лічу, што абмяркоўваць праблемы нашага жыцця, працаваць над імі — гэта наш грамадскі абавязак, бо калі запануе абыякавасць, не будзе ў нас ніякага прагрэсу, а наадварот — заняпад.

Думаю, што Дзядзька Квас яшчэ ўсё прадумае і будзе далей пісаць. Ён жа ведае, што яго чытаць любяць, а калі і яго хто ў чым крытыкуе, то ж нічога ў гэтым дрэннага. Народныя пагаворкі кажуць, што „двае галавы, то не адна", але „кожная галава мае свой розум".

**В. Станулевіч,**
Ольштын

## БЕЛАВЕЖСКІ ПЛЕНЕР

У Белавежы ад паловы верасня да паловы кастрычніка г.г. працягваўся XIV Міжнародны мастацкі пленер. Прыняло ў ім удзел каля 40 чалавек. З польскіх мастацкіх цэнтраў асабліва былі прадстаўлены ў гэтым годзе Беласток, Варшава і Кракаў. З заграніцы прыехалі мастакі з СССР, Балгарыі, Чэхаславакіі, ГДР, Венгрыі.

Пасля заканчэння пленеру, як амаль штогод, у памяшканні Прыродазнаўчага музея БНП была наладжана выстаўка намаляваных карцін. Адрэкамендавана на ёй 113 прац 34 аўтараў. Наведваючым найбольш спадабаліся працы Ольгерда Бервячонка з Катовіцаў, Сабіны Лёнты з Чэнстаховы, беластачан Антона Шыманюка і Анатолія Корзуна, Станіслава Ключыкоўскага з Кракава, варшаўян Міхала Аўдзейчыка і Тэрэсы Панасюк, балгаркі Маі Гаровай, немца Гюнтэра Гофмана. На жаль, падчас сёлетняга пленеру намалявана нямнога карцін, якія даўжэй прыцягваюць зрок, з якіх дыхае вялікім мастацтвам. У шматлікіх карцінах таксама цяжка заўважыць уплыў белавежскай восені. Узровень цэлага пленеру надта пасрэдны. Крыху па-над пасрэднасць выйшла арганізацыя выстаўкі. Арганізатары паклапаціліся не толькі аб тым, каб усе карціны былі падпісаны прозвішчамі іх аўтараў, але пры кожным з прозвішчаў далі фота аўтара.

**П. Байко**

## ХТО ВЕДАЕ?

Я быў у БССР у гасцях і сустрэўся з жанчынай, муж якой у вайну прапаў у Польшчы. Яна да сёння не ведае, што з ім здарылася. У 1939 годзе ён быў прызваны ў армію. Яго хатні адрас тады быў: Калагрыў Аляксандр, сын Міхаіла, нар. у 1906 г. вёска Бруск, павет Лыскоўскі.

Ён з іншымі салдатамі папаў у плен у Ломжы ці Замброве, там іх германец загнаў усіх у будынак. Адзін з палонных кінуў на германцаў гранату, і тады германцы іх акружылі і пабілі. Не захаваліся ніякія весткі пра гэта. Можа хто-небудзь ведае, дзе гэтыя людзі пахаваны? Можа ёсць магіла? Жонка просіць разведаць, хоча пабываць на магіле мужа. Хто ведае, хай адгукнецца да рэдакцыі „Нівы". Падаю і адрас жонкі: Калагрыў Марыя Сямёнаўна, Валкавыск. вул. Камунальная 77, Гродзенская вобласць.

Хачу яшчэ сказаць, што жанчына гэтая была сувязным партызанскага атрада імя Кірава брыгады Панамарэнкі.

**Э. Ш.**

## ВАСІЛЬ САПЁЛКА

Яму ўжо пад восемдзесят. Жыве ў вёсцы Грабавец, Дубіцкай гміны. У вайну Васіль Сапёлка быў гаёвым і адзін з першых звязаўся з партызанамі, дастаўляў ім вопратку, харчы, прыносіў весткі. Тут даўжэйшы час дзейнічаў партызанскі атрад імя Пархоменкі. З партызанамі хутка падружылі і сталі сувязнымі людзі з Дубіч Царкоўных — Іван, Міхась, Уладзімір і Дзмітры Панфілюкі, Іван Хіліманюк, Іван Чыквін (нейкі час жыў у Грабаўцы), Фёдар Марчук.

Лясныя госці часта наведвалі вечарамі сям'ю Панфілюкоў, якая ў той час жыла на ўскраіне вёскі.

Васіль Сапёлка ніколі не забудзе лета 1943 года, калі фашысты-карнікі ўздумалі расправіцца з партызанамі ў лесе, які цягнецца ад Чэхаў Арлянскіх праз вёску Вітава аж да самай Белавежскай пушчы. Гэта была добра падрыхтаваная фашыстамі аперацыя — аблава, у ходзе якой яны хацелі хутка акружыць галоўныя лясныя ўрочышчы, дзе, як меркавалі, знаходзіліся базы партызанаў. І тут Васіль Сапёлка праявіў найбольшую самаахвярнасць. Праз глухія сцежкі-дарожкі, праз балоты правёў партызанаў у бяспечнае месца далёка ў Белавежскую пушчу, і такім чынам правалілася аперацыя фашыстаў.

**М. Панфілюк**

## СВЕТ НЕ БЕЗ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ

У адну кастрычніцкую сераду жонка мая зайшла ў цэнтр Гайнаўкі, каб купіць новыя занавескі да акон, бо старыя ўжо пабляклі ад сонца. Зайшла яна ў краму на вул. М. Бучка 13.

Тэкстыльная крама гміннай спулдзельні. У краме быў матэрыял на занавескі.

Купіла патрэбны матэрыял, заплаціла, забрала пакупку і выйшла з крамы. Прыйшоўшы дамоў, агледзелася, што няма кашалька з рэштай грошай. Хацела адразу бегчы ў тую краму, ды я сказаў, што няма чаго, бо ўжо грошы прапалі.

На наступны дзень жонка пайшла ў тую краму, а прадаўшчыца адразу пытаецца, ці часам не пакінула яна кашалька пры пакупцы і колькі ў ім было грошай?

У кашальку было 900 злотых, якія прадаўшчыца адразу звярнула.

Прыйшла старуха дахаты, задаволеная, і кажа, што свет не без добрых людзей.

Зайшоў я да віцэ-прэзаса ГС інж. Міхася Гацуты і ад яго даведаўся, што ў тэкстыльнай краме на вул. М. Бучка 13 ужо многа гадоў працуе кіраўніком і прадаўшчыком у адной асобе Глінская Ольга. Працаўніца дысцыплінаваная, ветлівая і добрасумленная, для якой сумленне даражэй за грошы.

Ведаюць яе не толькі ў Гайнаўцы, але таксама ў Нараўскай гміне, адкуль яна родам, і ў гмінах Чыжы і Нараўка, дзе яе муж быў камендантам пастарунка грамадзянскай міліцыі. І Ольга з ім разам там пражывала. Муж ужо на пенсіі, а пані Оля яшчэ працуе для задавалення пакупнікоў Гайнаўшчыны. Гміннай спулдзельні ў Гайнаўцы і ўсім гмінным спулдзельням жадаю больш такіх працаўнікоў!

**Э. Вайсковіч**

## ДЗЕ АРАНЖАДА?

З такім пытаннем я звяртаюся да прэзаса ГС і дырэктара фабрыкі газіраваных вод у Заблудаве. Чаму гэтага смачнага напітку не было ў крамах Заблудаўскага ГСу вясной, летам і няма яго цяпер, хоць ужо прайшло гарачае лета і напіткаў трэба менш? Часта ў крамы прывозяць „Каралінку", якая ані смакам, ані пахам не напамінае аранжады. Аранжады няма, але колькі хочаш такіх напіткаў, як „Гербавіт", „Арангін", „Хлебны квас" і „Квік-кола".

Гэты апошні найменш, бадай, падабаецца людзям. Калі прадукуюцца розныя напіткі, у тым ліку і „Квік-Кола", якую людзі п'юць, калі няма нічога іншага, дык чаму не прадукуюць аранжады, якая найбольш падабалася нашым людзям? Здагадваюся, што можа вялікую ролю адыгрываць тут план, які найлепш выканаць, прадукуючы мала, але дарагіх напіткаў. План планам, а мы хочам аранжады.

**Антолік**

## СУСТРЭЧА СТАРЭЙШЫХ

Гміннае праўленне гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе арганізавала ў клубе „Рух" насычальні сустрэчу старэйшых людзей. Было запрошана 50 асоб. Прыйшло 35. Былі ўспаміны і сямейныя размовы.

На гэтай сустрэчы былі праведзены і выбары новага праўлення гуртка. Старшынёй выбралі Казіміра Сціхуру, дагэтуль быў Уладзіслаў Гансяроўскі. Новае праўленне абмеркавала таксама далейшую дзейнасць свайго гуртка.

Сардэчныя пажаданні ад імя гміннага камітэта партыі складу удзельнікам І сакратар Станіслаў Фалькоўскі, а Вальдэмар Савіцкі з Янкам Вілюком пайгралі бабулям і дзядулям на гармоніку. **(ус)**

## ЦІКАВАЯ ЭКСКУРСІЯ

Па ініцыятыве гуртка ЗСМП чаромхаўскай станцыі і рады прафсаюзаў была арганізавана экскурсія па шляху Жэшаў-Ланцут-Санок-Кросна-Бяшчады. Удзельнікам экскурсіі чыгуначныя ўлады далі спецыяльны спальны вагон.

Экскурсанты наведалі найбольшую ў Еўропе калекцыю нафтавых лямпаў у Кросне, каралеўскі замак і скансен народнага будаўніцтва, а таксама вялікую калекцыю іконаў з XIV-XVIII стагоддзяў у Саноку, старадаўні горад Пшэмысль з яго цікавай архітэктурай і месца гібелі генерала Караля Сверчэўскага ў Бяшчадах.

Экскурсаводам быў старшыня гуртка ЗСМП Веслаў Младзяноўскі. **(су)**

## ЯК ДОЎГА ЯШЧЭ ЧАКАЦЬ ТРЭБА?

Хутка будзе ўжо год часу, як гэта здарылася. Маладыя людзі па-„вясёламу" ехалі ўвечары аўтамашынай і на мосце над рэчкай Арлянкай урэзаліся ў бар'ер, праламалі яго і „ўехалі" ў рэчку, так што аўтамашына перавярнулася ўверх калёсамі. Як кажуць, было тут аднак шчасце ў няшчасці, бо з пасажыраў ніхто не пацярпеў, толькі машына моцна „пацярпела". І вось прайшло ўжо столькі часу, аднак ніхто праламаны бар'ер не змяніў і не адрамантаваў. А мо чакаюць яшчэ аднаго падобнага выпадку?

**П. Д.**

## ПАЧЫН

Грамадзяне сяла Крывяцічы правялі пачын пры рамонце дарог і пабудове мастоў. Папраўлі адрэзкі дарогі, вартасць — 25 тысяч злотых, пабудавалі два масты-праезды з бетонных кругоў — 16 тысяч зл. Пачынам кіравалі солтыс сяла Крывяцічы Уладзімір Кавальчук і І сакратар ПОП Кулік Міхал. Найбольшы ўклад у пачын унеслі такія грамадзяне, як Мікалай Суліма, Іван Суліма, Міхал Будко, Пётр Дзюбанос, Мікалай Роля і іншыя.

**Іван Кірызюк**

## ДРОБНАЯ І ВАЖНАЯ

Ужо прайшло шмат гадоў, калі можна было ў краме вёскі Масева І купіць брытву для брыцця і пасту для абутку. Вядома, што гэтыя тавары падаражэлі, але іх і цяпер няма ў краме. Можа хто-небудзь з ГСу ў Гайнаўцы, прачытаўшы гэтых пару слоў, успомніць нашу далёкую пушчанскую вёску.

**УКС**




...чаромхаўская чыгуначная станцыя стала прытулкам для п'яніц і бадзяг. Вось, напрыклад, 13 кастрычніка вечарам на падлозе ў пачакальні „прызямліўся" нейкі тып. Была гэта цікавая карціна для ўсіх наведвальнікаў буфета і падарожных. Ніхто аднак з чыгуначнай службы не пацікавіўся ляжачым на зямлі. **(ус)**

Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Ніву"



З легендаў нашай зямлі

## ГАРА Ў КАТЛАХ

У Катлах, Бельскай гміны, ёсць гара, з якой людзі бяруць пясок. Легенда гаворыць, што калісьці на гары гэтай была царква. І ў нейкі ранак, як ішла служба, зямля расступілася — і царква з людзьмі правалілася пад зямлю. Мая мама мне калісьці расказвала, як яна была яшчэ маленькай, то бегала да гары і прыкладала вуха да дзірак і чула, як адпраўляліся пад зямлёю ютрані ў царкве той. Легенда кажа, што было гэта даўно-даўно. Можа і варта верыць людзям?

**Румі**

**Ад рэд.** Зямля наша ўсеяна ўзгоркамі, якія пры археалагічных раскопках выяўляюць свае багацце. Такая ж гара можа быць і ў Катлах.




**Анатоль Моўчун, Познань.** Адказваючы на вашы клопаты з выпіскай „Нівы" ў БССР, хочам шырэй выясніць гэтую справу яшчэ раз.

„Ніву" можна выпісаць ва ўсёй нашай краіне і заграніцай. Выпіску заграніцу вядзе таксама ў Польшчы Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Dział Prasy Eksportowanej, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Калі хтосьці ў нашай краіне хоча выпісаць „Ніву" некаму заграніцу, павінен дакладна запоўніць бланкет (трохскладовы), які ёсць на кожнай пошце. Трэба падаць у ім назву і конта Цэнтралі, які возьмеце са стопкі ў „Ніве" пры падпісцы на заграніцу, а на абароце бланкета напішаце: Prenumerata „Niwy", на які перыяд і адрас — каму. Бланкет такі аплочваеце на пошце і ўсё. Напамінаем, што сума, якую трэба заплаціць на заграніцу, на 50% даражэйшая, г. зн. 52+26=78 зл. на год.

У краіне па-за Беластоцкім ваяводствам людзі часта напатыкаюць таксама цяжкасці ў выпісцы „Нівы". Таму выясняем, што на кожнай пошце ёсць: Informator o cenach prasy krajowej. „Ніву" і ўмовы яе выпіскі знойдзеце там у алфавітным парадку, а таксама можаце спаслацца на нумар індэкса — 36671. Індэкс падаем кожны раз у стопцы „Нівы". Калі здарыцца, што дзе-небудзь працаўнікі пошты не могуць вам даць здавальняючага адказу, спасылайцеся на Інфарматар і ўсё будзе ў парадку.

Напамінаем таксама яшчэ, што гадавую падпіску на „Ніву" ў краіне і на заграніцу можна зрабіць да 25 лістапада бягучага года.

Квартальную падпіску ў краіне і на заграніцу можна рабіць да 10 кожнага месяца, які папярэджвае даны квартал. Напрыклад, на трэці квартал трэба зрабіць падпіску да 10 чэрвеня.

**Дзмітры Казбярук, Бандары,** піша: „Паважаная „Ніва", перадайце сябру Мікіце Аўсейчуку сардэчнае прывітанне. Ён прасіў вас знайсці старога сябра з ваенных год. На шчасце, я яшчэ ў жывых. Жыву ў роднай вёсцы Бандары. Жыву адзін (жонка памерла, а дачка ў Беластоку), на пенсіі. Пра сябра Мікіту не забыў, толькі не ведаў, ці жыве ў Завыках. Дашліце яму мой адрас".

## МІЛІЦЭЙСКАЯ ХРОНІКА

У вёсцы Лянева, гміны Чыжы, вечарам 22 кастрычніка загарэўся дом. І згарэў. На пажарышчы знайшлі згарэўшага гаспадара.

Увогуле міліцыйная хроніка падае прыклады шматлікіх пажараў у апошні час, часцей на вёсцы. І так, пажар быў у вёсцы Санікі, у Сідры — згарэла стадола разам з усім, што ў ёй, у Беластоку загарэлася хата і згарэла мэбля ў ёй, у Сямяцічах згарэла стадола з усімі плёнамі і сельскагаспадарчымі машынамі.

Пажары — страшнае няшчасце. Заклікаем усіх быць больш пільнымі!



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

